# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

19



Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР пастанаўляе:

Узнагародзіць ордэнам Леніна вялікага пралетарскага пісьменьніка таварыша Максіма Горкага за яго літаратурныя заслугі перад рабочай клясай і працоўнымі Саюзу ССР.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР—М. КАЛІНІН.

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР—А. ЕНУКІДЗЭ.

Масква, Крэмль.
17 верасьня 1932 г.

Пролетары усіх краін, злучайцеся

Чырвоная Беларусь

Кастрычнік 1932

№ 19

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 59
Тэл. № 17—09

Адказны рэдактар М. Хведаровіч
Сакратар Я. Шарахоўскі
Афармленьне нумару А. Тычыны

Максім Горкі

# Песьня пра Буравесьніка

Над сівою роўняй мора вецер хмарыны зьбірае. Паміж хмарынаў і морам гарда кружыць Буравесьнік,—бліскавіцы чорнай вобраз.

То крылом крануўшы хвалю, то стралой імкнучы да хмараў, ён крычыць, і чуюць радасьць хмары ў сьмелым крыху птаха.

У гэтым крыку—прага буры! Сілу гневу, смагу палу і вяшчунства перамогі чуюць хмары ў гэтым крыку.

Чайкі стогнуць перад бурай,—стогнуць, плёхаюць над морам і на дно яго наровяць жах схаваць свой перад бурай.

І гагары ціха ёгляць,—ім ня зычана,—гагарам—захлынацца ў змаганьні: гром удараў іх пужае.

Дурань—пінгвін спуду суне цела тлустае ў цясьніны... Толькі гарды Буравесьнік кружыць вольна і адважна над сівым ад пены морам!

Усё змрачней і ніжай хмары абвісаюць па-над морам, і пяюць і пруцца хвалі ў вышыню насустрач грому.

Гром грукоча. У пене гневу стогнуць хвалі, з ветрам б'юцца. От ахоплівае вецер зграі хваль абдымкам шчыльным і шпурляе іх з размаху ў дзікай злосьці на цясьніны, расшчапляючы на пырскі звар'яваныя змарагды.

Буравесьнік з крыкам кружыць,—бліскавіцы чорнай вобраз, як страла імкне праз хмары, пену хваль крылом зрывае.

Вось ён лётае, як дэман, гарды, чорны, дэман буры,—і сьмяецца і рыдае... Ён з драпежных хмар сьмяецца, ён ад радасьці рыдае!

Ў гневе грому,—чулы дэман,—ён даўно зьнябытасьць чуе, ён упэўнен, што ня засьцяць хмары сонца,—не, ня засьцяць!

Вецер вые... Гром грукоча...

Сінім полымем пылаюць зграі хмар над прорвай мора... Мора ловіць бляск маланак і ў сваім прадоньні гасіць. Быццам гады агнявыя ўюцца ў моры і зьнікаюць адлюстроўкі тых маланак.

— Бура! Скора жагне бура!

Гэта сьмелы Буравесьнік гарда кружыць між маланак над разьятраным памор'ем, то крычыць вяшчун адолі:

— Хай ямчэй-жа грымне бура!

1901 г.

Па беларуску пераклаў С. А.



# ПРЫВІТАНЬНЕ ТАВ. СТАЛІНА МАКСІМУ ГОРКАМУ

Дарагі Аляксей Максімавіч!

Ад душы вітаю вас і моцна цісну руку. Жадаю вам доўгіх год жыцьця і работы на радасьць усім працоўным, на страх ворагам рабочай клясы. **І. СТАЛІН.**

# МАКСІМУ ГОРКАМУ

Вялікаму сусьветнаму пралетарскаму пісьменьніку, любімейшаму арганізатару пралетарскіх літаратурных кадраў, натхніцелю і нястомнаму барацьбіту будаўніцтва сацыялізму ў дзень 40-гадовай дзейнасьці ў барацьбе супроць капіталістычнага ладу ЦК КП(б)Б шле гарачае прывітаньне, жадае Вам яшчэ доўгія гады змагацца ў першых радох за справу сацыялістычнага будаўніцтва, мабілізуючы пралетарыят усяго сьвету на барацьбу за сусьветны Кастрычнік.

Аляксей Максімавіч, жадаем добрага здароўя. **ЦК КП(б)Б.**

# МАКСІМУ ГОРКАМУ

Дарагі Аляксей Максімавіч!

На вялікі жаль, па справах службы я апынуўся па-за Масквой у дзень вашай урачыстасьці і пазбаўлен магчымасьці прыняць асабісты ўдзел у гэтым нашым пралетарскім сьвяце. Ваш юбілей глыбока хвалюе мяне, выклікае масу ўспамінаў, і я адчуваю патрэбнасьць, хаця-б па тэлеграфу, перадаць вам некалькі прывітальных слоў.

— Мы, вашы сучасьнікі—шчасьлівыя, што разам з вамі былі і зьяўляемся сьведкамі і актыўнымі ўдзельнікамі вялікіх падзей нашай эпохі, што разам з вамі жывіліся з адных і тых-жа найглыбейшых крыніц рэвалюцыйнай тэорыі Маркса і Леніна і аднак у адзін і той-жа час з вамі, сярод цяперашняга народу рабочых і сялян, на яго пакутах, па сваёй уласнай сыліне накапляні вопыт для барацьбы з векавымі гвалтаўнікамі і прыгнятальнікамі. Але, будучы найбольш геніяльным прадстаўніком народных нізоў, вы ня толькі жывіліся з гэтых крыніц,—вы самі сталі цудоўнай крыніцай, якая жывіць і натхняе рабочую клясу.

На вашых літаратурных творах выхаваліся цэлыя пакаленьні расійскіх пралетараў, упарцыню ўбачыўшых у іх узоры высокага, прыгожага мастацтва, зразумелага і роднага ім. Выдатная аповесьць „Мать" сапраўды зьяўляецца аўтабіяграфіяй рабочай клясы, настолькі многа ў ёй надзвычай блізкага, пераажытага кожным пралетарам, які прайшоў суровую школу старога, праклятага расійскага жыцьця.

Усе вашы творы абуджалі і будзяць у найшырэйшых масах прагнасьць сацыяльнай справядлівасьці, імкненьне да лепшага жыцьця, да актыўнай барацьбы з гвалтам, да рэвалюцыйнага разьняволеньня ад эксплёатацыі матар'яльнай і духоўнай. І перш за ўсё гэтым тлумачыцца глыбокая пашана да вас вялікага настаўніка Леніна, Сталіна і ўсёй нашай партыі ў цэлым.

Вы сапраўды стварылі сабе пры жыцьці нерукатворны помнік. Вашы прыгожыя вобразы ніколі не памруць. Вашы творы будуць жыць стагодзьдзі, і вашы бадзёрыя словы аб жыцьці і чалавеку будуць заўсёды гучэць вялікім заклікам да барацьбы за новае жыцьцё. Ваша імя, так ненавісьнае буржуазіі, будзе разнасіцца па ўсёй зямлі разам з вызваленьнем чалавецтва ад брудных, крывавых ланцугоў капіталізму.

Віншуем вас, дарагі Аляксей Максімавіч, абымаю вас ад усяго сэрца, жадаю вам добрага здароўя і бясконцых посьпехаў у вашых вялікіх творчых замыслах. Моцна, моцна паціскаю вашу руку.

25 верасьня 1932 г. **Ваш К. Варашылаў.**

# Адказ тав. Максіма Горкага на прывітаньні

**(На юбілейным вечары ў Маскоўскім вялікім тэатры 25 верасьня)**

Горкі (спатканы бурнымі апладысмэнтамі, пераходзячымі ў авацыю).

— Таварышы, расказваць вам аб тым, як усё гэта мяне хвалюе, я, зразумела, ня буду. Я вельмі стары для таго, каб скромнічаць, але, вядома, я разумею, што мае заслугі пераацэнены вамі. (Сьмех, апладысмэнты). Няхай так, я прымаю вашу ацэнку як аванс, які павінен я адпрацаваць. І наколькі ў мяне яшчэ ёсьць сякія-такія сілы, буду старацца рабіць тое, што я рабіў, лепш, калі гэта мне ўдасца. Аб юбіляры сказана даволі, давайце пагаворым аб юбілеі.

Як вы думаеце, таварышы, ці магчыма дзе-небудзь у сьвеце такое шырокае ўшанаваньне грамадзкага работніка, як вось у нас, у Саюзе савецкім?

Немагчыма. Дазвольце мне з поўнай упэўненасьцю заявіць, што немагчыма. Храміна капіталістычнага грамадзтва развалілася, акустыка ў ёй дрэнная, рэзонанс—подлы. Там, за рубяжом, не карыстаюцца сымпатыямі буржуазіі тыя людзі, якія ўпэўнены, што буржуазія даўно ўжо зрабіла на зямлі сваю справу, служыць перашкодай на шляхох разьвіцьця культуры і што ёй пара адправіцца да прадзедаў сваіх. Там магчыма, што калі рабочыя-камуністы ўшаноўвалі-б аднаго са сваіх барацьбітоў, дзядулі—правадыры рабочых с.-д. забаранілі-б арміі сваёй прымаць удзел у акцые ўшаноўваньня. Там ніякай гітлераўцы і інш. цывіль пры ўдзеле паліцыі зьбілі-б рабочых-камуністаў. Гэта, важна.

Я, зразумела, ніколі не сумняваўся ў тым, што рабочая кляса ўмее цаніць заслугі любога са сваіх байцоў. Сёньня крыху павышана, мажорна ўзята. Нічога! Гэта вельмі павучальна. Не для мяне ўжо, таму што я чалавек не надоўга, гэта важна для маіх субратоў—маладых пісьменьнікаў. Я, думаю, што маім сутаварышом—маладым пісьменьнікам, тым пісьменьнікам, якія яшчэ, можа быць, нічога не надрукавалі, але працуюць над рукапісамі, вось гэтыя адносіны рабочай клясы да літаратара трэба ведаць.

Гэтыя веды, нясумненна, павінны павысіць энэргію моладзі і наогул прымусіць яе сур'ёзна і сумленна працаваць, выхаваць у сабе пачуцьцё адказнасьці перад краінай за кожнае сваё слова, пачуцьцё адказнасьці за ўсё, што ў ёй робіцца, і за ўсё тое, што ў ёй дрэнна або нядобра робіцца. Дзейнічаюць людзі, якія ўжо ведаюць, як трэба дзейнічаць, каб атрымаўся добры рэзультат. Калі-ж рэзультат дрэнны, значыцца, дрэнна працавалі, значыць самі вінаваты ў тым, што дрэнна. Усё—вельмі проста. Яшчэ чаго-б я пажадаў моладзі — гэта веры, непахіснай веры ва ўсемагутнасьць розуму. Вось, таварышы, тая сіла, якая вас апранае, абувае, грэе, вось вера ў гэту сілу, вера ў яе здольнасьць да далейшага бязьмежнага разьвіцьця, вось гэта неабходна выхаваць у сабе і гэта можа быць выхавана толькі працай, толькі накапленьнем ведаў, аснова якіх—праца, толькі ясным уяўленьнем аб тым, што дано розумам чалавеку, чалавецтву.

Я заклікаю маладых паплечнікаў маіх вучыцца, як можна больш вучыцца, пазнаваць сваю краіну, ведаць добра, дзе, што ёй, у чым яна адчувае патрэбу, ведаць яе мінулае, сучаснае і будучае, каб мець уяўленьне аб тым, як і што трэба рабіць для будучага. Я думаю, ня дрэнны наказ: трэба вучыцца. Веды — якраз тая зброя, якой усім нам, і мне ў тым ліку, не хапае.

Ну, вось, я ўсё сказаў. Таварышы, дазвольце вас ад душы падзякаваць за гэты зусім нязвычайны падарунак... які вы мне зрабілі ў гэты дзень, і за тую энэргію, якую вы ўдыхнулі ў мяне. Няхай жыве партыя рабочай клясы, партыя бальшавікоў! Таварышы, надзвычайная сіла, разумная, непахісная сіла наша партыя!

Жадаю росту ёй. А вам—знайсьці хутчэйшыя, не зважаючы на труднасьці, шляхі ў яе. (Авацыі).

МАКСІМ ГОРКІ

# ПАВАДЫР



**М. Горкі ў 1892 г.**

Нудна стала нам,—доктару Палканаву ды мне,—крочыць другі дзень па гарачым пяску берагу ляное Акі, поўз небагатыя рачанскія палі, пад сонцам апошніх дзён мая; занадта руплівае, сёлета яно пагражала сухмянём.

Усе найбольш складаныя пытаньні цывілізацыі ды культуры мы з доктарам канчаткова вырашылі яшчэ ўчора, згадзіўшыся што дапытлівы розум чалавека разьвяжа ўсе вузлы і петлі сацыяльныя блытаніны, разьвяжа ўсе загадкі бытнасьці і, вызваліўшы людзей з хаоса няшчасьцяў, з цемры неўразумленьня, зробіць іх богападобнымі.

Але калі мы спустошылі запасы нашых ведаў, рассыпаўшы мудрасьць сваю адзін перад адным на дарозе краскамі слоў, ісьці нам зрабілася цяжэй ды нудней.

У поўдзень натрапілі на пастуха; сагнаўшы статак да рэчкі, ён, маленькі, сухі чалавек, з жорсткімі рыжымі валасамі на касьцях твару, параіў нам:

— Вы-б лесам пайшлі, лесам ісьці—халаднавацей, лес гэты—дрэўні, заваецца Мурамскі; калі яго наўскасяк прайсьці, проста ў Мурам і ўпрацеся.

Лес непраніклівую, сіняватаю сьцяною высіўся ў вярстох трох ад берага. Падзякаваўшы пастуху, пайшлі мяжою, цераз поле жыта: пастух, ляснуўшы пугаю, закрычаў нам.

— Гэй, заблудзіце вы ў лесе! Зайдзеце на сяло, там ёсьць знаток такі стары Пётра, ён вас правядзе за невялікія грошы, за дваццатку.

Зайшлі на сяло: дамоў пятнаццаць прыціснутых да схону даліны, над невялічкаю рэчкаю, што таропка і як-бы спуджана выцякае з лесу.

Сівабароды Пётра, з невясёлым зрокам шэрых вачэй, папраўляў кадушку, устаўляючы ў яе дно; ён выслухаў нашу прапанову моўчкі, а тоўсты чалавек, што глядзеў за яго работаю, пакурваючы люльку, сказаў:

— Ён вас давядзе акурат. Гэта ў нас павадыр самы першы на ўсю акругу. Яму лес вядомы, як свая барада.

Барада ў Пётры была невялікая, ня густая. а сам ён быў не памужыцку ахайны і вельмі паважны, спакойны. Добры, мяккі і пакорлівы твар.

— Ну, што-ж?—сказаў ён, адсунуўшы падушку доўгаю ў лапці нагою.—Можна. Блаславіўшыся пойдам. Паўрубля дасьце?

Тоўсты чалавек нечаму абрадаваўся, загаварыў жывей.

— Паўрубля—цана танная. Я-б от за паўрубля не пайшоў-бы, не! А гэта чалавек—бывалы. Ён вас пад ноч завядзе ў самы, у Мурам. Сьцежкаю павядзеш?

— Сьцежкаю,—сказаў Пётра, уздыхнуўшы.

Пайшлі. Пётра, высокі і просты, з доўгім кіем у руцэ, крочыў наперадзе нас і маўчаў, як-бы яго і ня было.

На доктаравы запытаньні ён абзываўся не азіраючыся, коратка і спакойна:

— Дарма. Прывыклі. Як сказаць? Вядома, кепскавата жывом.

Калі ён сказаў:

— І мурашка прывычкаю жыве.

Доктара Палканава апякло захапленьне; ён прыгадаў Буда, Леббока, Брэма і доўга і ўзьнята гаварыў пра таямнічае жыцьцё мурашак, пра сьціпласьць рускага народу ды пра красамоўную дакладнасьць яго мовы.

Уваходзячы ў лес, Пётра зьняў шапку, перахрысьціўся і абвясьціў нам:

Вось ён, пачынаецца, лес!

Спачатку ішлі па дарозе паміж сьцяблямі вялізных соснаў; іхныя карані, перасекваючы глыбокі пясок, разьмяты коламі драбін, вілавата ляжалі, як шэрыя, мёртвыя зьмеі. Прайшоўшы з паўвярсты, наш павадыр суняўся, паглядзеў у неба, пастукаў кіям па сьцяблу дрэва і моўчкі, крута зьвярнуў на сьцежку бадай няпрыкметную, пад хвояю і сярод некіх маленькіх ялінак; захромшаючы важную цішыню; яна вельмі нагадвала паважную маўчаніну дрэўняе царквы, у якой даўно ўжо ня служыцца, але яшчэ ня вытахся цёплы пах ладану і воску. У зеленкаватым змроку, сям-там пранізаным гострымі праменьнямі сонца, у залатых істужках стаялі масянжовыя калюмны соснаў, пакрытыя зялёнаю карою грыбкоў, шэрымі лямцамі моху; сярод калматых лап сьвіцеліся ўзоры нябеснага мошасту.

Пасьля, калі ўвайшлі глыбей у лес, мне здалося, што ўвесь ён неяк раптоўна і дзіўна ажывіўся. Замест Салаўя-разбойніка сьвісталі дразды, было багата ўсялякіх птушак, кручкаватыя іхныя дзюбы няўтомна торылі ў хваёвых шышках, шэраю мышаю бегаў па сьцяблох няўлоўны паўзун, паволі дзяўбаў кару дзяцел, трынкалі сумятлівыя сініцы, рыжыя вавёркі пераскоквалі ў паветры з кроны на крону, распушыўшы хвасты. І ўсё-такі было так ціха, што нават доктар Палканаў дагадаўся: у гэтай цішыні самыя разумныя словы былі-б не дарэчы.

— Заяц,—сказаў наш павадыр і ўздыхнуў:

— Эх...

Я не заўважыў зайца. Сьцежка,—калі толькі яна была,—дзівіла мяне сваім свавольным характарам: іншы раз, там, дзе ёй патрэбна было-б ляжаць проста, яна абгінала колпам паасобныя групы дрэў, там-жа, дзе перад ёю дрэвы стаялі шчыльною сьцяною і каля карэньняў іх густа расьлі кусты чаўніц, яна з прасталінейнасьцю, якая здавалася мне лішняю, лезла праз сьцяблы соснаў і, нябачная, урэзвалася ў парасьнік.

— Зараз павінен быць роў,—перасьцярог Пётра вельмі ціха.

Вёрст праз дзьве я запытаўся ў яго:

— Дзе-ж роў?

— Мабыць у бок адышоў,—сказаў стары і, паглядзеўшы ў неба, дадаў:

— Заяц гэты...

Доктар Палканаў захацеў даведацца:

— Мы не заблудзілі?

— Навошта?—запытаўся павадыр.

Але, калі пачынала цямнець, а мы пачулі сябе даволі стомленымі, нам стала пэўна: заблудзілі. Доктар зноў далікатна намякнуў пра гэта старому і атрымаў упэўнены адказ:

— Я-ж тут сорак разоў хадз'ў. Праз вярсту часу будзе расьцяроб, па ім мы выдзем на выжары, абыдзем іх бокам і зноў у лес, а там і Мурам будзе відаць.

Гаворачы, ён спакойна адмерваў кіём сажані, не сунімаючыся крочыў, абступаўся перад некімі нябачнымі мне перашкодамі і ня надта зважаў на перашкоды відочныя. Падакляраваная ім „вярста часу“ расьцягнулася на добрую гадзіну дарогі, расьцяроб і выжары—таксама, мабыць, „адышлі ў бок“, ня хочучы паказацца нам. Але вось мы вышлі на невялікую палянку, срэбны месяц вісеў над ёю, абсьвечваючы кучу абгарэлых бярвеньняў, і сярод іх—чорны абломаны комін на палову разбуранае печы; гэта было падобна да старанна і працавіта зробленага рысунку недасьціпнага мастака.



**М. Горкі ў 1903 г.**

— Я тут бываў,—абвясьціў нам павадыр, азіраючыся.—Гэта—вартавая будка, палясоўшчык жыў у ёй. П'яніца.

Доктар нявесела, але цьвёрда сказаў:

— Заблудзілі.

— Крыху падобна,—асьцярожна трохі згадзіўся стары зьняўшы шапку, гледзячы на месяц.—Заяц дарогу перабіў нам,—паскардзіўся ён.—Крута налева падаліся мы. Удзень—цяжка пазнаваць; уночы—зорка дарогі паказвае, а ўдзень неба пустое.

І тыкаючы канцом кія ў галавешку пад нагамі, ён, уздыхнуўшы, дадаў:

— На лысай галаве і вош ня водзіцца.

толькі ня рабства, „Песней о соколе“, што ўслаўляе „безумство храбрых“, „Старухой Изергиль“ пасьледавалі рэалістычныя апавяданьні „Бывшие люди“, „Скуки ради“, „Кирилка“ і інш., у якіх аналізуецца клясавая грамадзкасьць з яе эксплёататарскай сутнасьцю. А апавяданьні „Варенька Олесова“, „Озорники“, „О чорте“, „Еще о чорте“ сатырычна білі па лібэральнай інтэлігенцыі, раздвоенай у сваіх імкненьнях бясьсілай і бездапаможнай. Усе гэтыя апавяданьні адыгралі вялікую ролю ў гісторыі рэвалюцыйнага ўздыму 90-х гадоў, дапамагаючы рэвалюцыйным элемэнтам грамадзтва выразьней убачыць клясавага ворага і заклікаючы да барацьбы за зьмену жыцьця.

Шырокая папулярнасьць Горкага ў асяродзьдзі рабочых і рэвалюцыйнай моладзі вымушала царскі ўрад шукаць спосабаў „абясшкодзіць“ яго. У 1901 годзе Горкага арыштавалі і выслалі ў павятовы гарадок Арзамас для таго, каб аддаліць яго ад фабрычна-заводзкіх цэнтраў. Гэта не перапыніла, вядома, сувязі Горкага з партыйнымі арганізацыямі, і ў 1902 г. вярнуўшыся са ссылкі, ён арганізавана зьвязваецца з рэвалюцыйнай сацыял-дэмакратыяй, з яе газэтай „Искра“, якою кіраваў Ул. Ільліч Ленін. Праз год гэта частка сацыял-дэмакратыі стварыла партыю бальшавікоў, і Горкі цесна ўваходзіць у кола яе работы. У бурныя дні 1905 году Горкі зьяўляецца адным з арганізатараў газэты „Новая жизнь“, якая становіцца першым легальным органам бальшавікоў і фактычна рэдагуецца У. І. Леніным.

Горкі прымае ўдзел і ў арганізацыі маскоўскага сьнежаньскага паўстаньня, дапамагаючы ўзбраеньню рэвалюцыі і разгортваньню баявых дзеяньняў. У пачатку 1906 году партыя дар учае яму паездку ў Амэрыку для збору грошай у дапамогу рэвалюцыі. За час гэтай агітацыйнай паездкі Горкі напісаў „Мать“, адзін з буйнейшыя сваіх твораў. Вядома, як ацаніў Ленін зьяўленьне твору „Мать“, якое значэньне мела гэта аповесьць для расійскага і заходня-эўрапэйскага пралетарыяту. На захадзе яна распаўсюджвалася дадаткам да рабочых газэт у мільёнах экзэмпляраў. Больш няўдачлівым быў рускі рабочы-чытач. Царскі ўрад па-свойму ацаніў „Мать“. Ён канфіскаваў першы зборнік, у якім зьявіўся пачатак аповесьці, вырваў з другіх вялізарныя кавалкі і не дапусьціў асобнага выданьня. Таму „Мать“ у Расіі зьявілася толькі пасьля рэвалюцыі 1917 году. Наступ рэакцыі біў і па іншых творах Горкага. Рад апавяданьняў яго зусім не маглі друкавацца ў Расіі: „9-го января“, „Патруль“. П‘еса „Враги“ была надрукавана, але бязумоўна „забаронена да прадстаўленьня на сцэне“. Па тэй-жа прычыне не магла зьявіцца п‘еса „Последния“, а з вялікай аповесьці „Жизнь ненужного человека“, маляваўшай жыцьцё і дзейнасьць органаў ахранкі, дапушчан быў да друку толькі пачатак. З наступленьнем рэакцыі Горкі пераходзіць на становішча палітычнага эміграната і, пасяліўшыся ў Італіі, працягвае работу над новымі творамі.

У 1909-10 гг. былі надрукаваны „Городок Окуров“, з „Жизни Матвея Кожемякина“, ў аповесьці аб мяшчанскім быце. З таго часу акураўшчына становіцца вызначэньнем гэтай тўпой, коснай сілы, якая скоўвала старую Расію.

Калі пасьля аслабленьня рэакцыі бальшавіком удалося паставіць зноў легальную газэту „Звезда“, Горкі зьмясьціў у ёй некалькі казак, Ленін піша яму ў 12 годзе: „Надзвычайныя казкі, якімі вы шмат дапамагалі „Звезде“, і гэта мяне радавала надзвычайна“...

З 1913 году Горкі рэдагуе літаратурны аддзел бальшавіцкай часопісі „Просвещение“ і ў гэтым-жа годзе пачынае свой жыцьцяпіс „Детство“, „В людях“ і „Мои университеты“.

„Дело Артамоновых“, якое зьявілася ўжо пасьля рэвалюцыі, напісана ўжо на сюжэт іншага парадку. Гэта—гісторыя капіталістычнага роду Артамонавых, справа якіх занепадае па меры разьвіцьця і росту рабочай клясы. Гэты працэс аж да рэвалюцыі, якая начыста зьмяла справу Артамонавых, справу капіталізму, паказан Горкім з надзвычайна дакладным аналізам. На апошнія гады падае яшчэ ня скончаная работа над аповесьцю „Жизнь Клима Самгина“. Гэта вынік інтэлектуальнага і сацыяльнага жыцьця Расіі апошніх дзесяцігодзьдзяў. Гэта палемічная рэч вялікай сатырычнай вострасьці.

За гады Савецкай улады Горкі надрукаваў вялізарную колькасьць артыкулаў, у якіх выступае ў абарону першай у сьвеце пралетарскай дзяржавы, выкрываючы паклёпнікаў на яе, прапагандуе вялізарныя дасягненьні савецкай улады.

Я. ШАРАХОЎСКІ

# ТВОРЧЫ ШЛЯХ МАКСІМА ГОРКАГА*)



Васьмідзесятыя годы. Краіну ахутала чорная ноч рэакцыі. Прыдушанае грамадзкае жыцьцё ляжыць пад пятой бюракратыі славутага „пугала“. Рэвалюцыйнае народніцтва, кінутае ў цытадэлі і астрогі жандармэрыяй карановаванага васьмідзесятніка, пражывае хваравіты працэс пазбаўленьня ад многіх ілюзій. Траўрныя шэрагі шыбеніц, кайданны звон у сібірскіх капальнях, бяз колькі-небудзь значных вынікаў барацьбы, сьведчаць аб няпрыгоднасьці для рэвалюцыі мэтаду індывідуальнага тэрору. Разначынная інтэлігенцыя, што спачувала народавольцам, або проста папаўняла іх шэрагі, часткова маўчыць, а часткова спрабуе танклявымі галасамі прапаведваць тэорыі „малых спраў“. Палінялыя чэхаўскія героі, патэнтаваныя „чалавекі ў футлярах“, запужаныя да сьмерці разгромам народавольцаў, пасьпешна высоўваюць дэвізам свайго жыцьця рабскае: „Як бы чаго ня выйшла“.

У такіх абставінах, з нізоў гарадзкой дэмакратыі прышоў у літаратуру Максім Горкі. У сваіх першых творах ён у супроцьлегласьць васьмідзесятнікам адраджае культ героя, самадданага барацьбіта. Бадзёрасьцю, аптымізмам прасякнуты яго першыя легенды і песьні.

Вось расказвае старая Ізергіль пра юнага героя Данко. На стэпавых прасторах жылі вясёлыя, моцныя і сьмелыя людзі. Але прышлі яшчэ больш моцныя людзі і прагналі іх з родных мясьцін у гушчары старога лесу. У лесе было шмат гнілых балот і панавала спрадвечная цемра. І гінулі людзі ў лесе адзін за адным. Доўга думалі людзі і ўжо хацелі iсьці да ворага і аддаць яму сваю волю. Але зьявіўся малады Данко і вызваўся вывесьці іх з лесу. Доўга вёў іх Данко і вось аднойчы разбушавалася навальніца, зашапталі дрэвы глуха і грозна. Людзі страцілі ўсякую надзею і хацелі забіць Данко. Тады ад вялікай любві да людзей разарваў свае грудзі Данко, выняў сваё палаючае сэрца і павёў людзей, сьвятлом уласнага сэрца асьвятляючы ім шлях. І расступіўся лес, выйшлі людзі зноў у стэп, на прастор. Радасна агледзеў вольную зямлю Данко і засьмяяўся горда. Потым упаў і памёр Данко.

У гэтай легендзе мы бачым моцную асабовасьць, якая самаахвярна аддае сябе для агульнай справы. Блізка паводле свайго ідэйнага зьместу да гэтай легенды „Песня о Соколе“ і „Песня о Буравестнике“.

На фоне твораў майстроў мікраскапічнага псыхоаналізу, сутонных васьмідзесятніцкіх перажываньняў, змагальныя гімны і лягенды Горкага ўспрыймаліся надзвычайна востра. Інтэлігенцыяй, якая брала стаўку на пралетарыят, яны ўспрыймаліся, як нешта новае, што павінна пацягнуць за сабой уздым грамадзкай дзейнасьці, уздым рэвалюцыйнай думкі, новую хвалю змаганьня за лепшую будучыню. Яшчэ панавала цішыня і неба была закрыта хмарамі, але ў паветры адчувалася нешта навальнічнае. Пачыналася другая палова дзевяностых гадоў. Яна ішла пад знакам аптымістычных надзей, бунтарскіх заклікаў Горкага і першых рабочых стачак.

Жыцьцё Горкага багата біяграфічнымі фактамі. Ён працаваў грузчыкам, сапожнікам, пекарам, пеша прайшоў увесь поўдзень Расіі. Жыцьцё яго склалася так, што ён меў магчымасьць блізка пазнаёміцца з асяродзьдзем дэклясаваных выкінутых за борт грамадзкага жыцьця людзей. У паасобных

*) Поўнасьцю артыкул друкуецца ў № 4 „Полымя Рэвалюцыі“.

прадстаўнікоў гэтага асяродзьдзя яму даводзілася назіраць каштоўныя моральныя і этычныя якасьці, нездаволенасьць шэрай абыдзёншчынай, вялікую сілу волі, настойлівасьць у дасягненьні сваіх мэтаў, нястрымную імклівасьць да лепшай будучыні і г. д. і г. д. Гэта былі якраз тыя якасьці, якіх так не хапала прадстаўніком васьмідзесятніцкага грамадзтва, і якія станавілі сабой элемэнты пратэсту супроць існуючых грамадзкіх адносін. Таму дэклясаваных герояў Горкаўскіх твораў „басяцкага“ пэрыяду трэба разглядаць выключна з пункту гледжаньня выражаемай праз іх ідэі, так трэба разглядаць і закончаны тып басяка, як грузін Шакро („Мой спутник“), злодзей Чалкаш („Челкаш“), бадзяга Промтаў („Проходимец“), рыначны асілак Арцём („Каин и Артем“) і інш.

Гэта бунтары, пратэстанты, цэласныя, выключныя індывідуальнасьці. Яны—безразважна, упэўнена, па воле сваіх інстынктаў дзейнічаюць у жыцьці і лічаць, што маюць права так дзейнічаць з прычыны сваёй выключнасьці, узвышанасьці над шэрым натоўпам бясхрыбетных васьмідзесятнікаў.

— „Я чалавек, якому ў жыцьці цесна,—кажа Промтаў.— Жыцьцё вузкае, а я шырокі“.

Або возьмем Мальву, да чаго гэта вольная, моцная і паляўнічая фігура. Але ў „Мальве“ мы ўжо заўважваем і нешта іншае. У адным месцы яна гаворыць, што ёй-бы хацелася паехаць далёка-далёка ў мора з тым, каб нават і не вяртацца да людзей. У гэтай заўвазе выяўляецца другі, рэальны бок псыхалёгіі басяцтва. Пры ўсёй непасрэднасьці, першабытнай сіле іх натур, басякі ўсё-ж надзвычайна непрыстасаваны да жыцьця, нават больш, яны выкінуты за яго межы. Пры ўсёй іх хіжацкай этыцы, ніцшэанстве, выяўляецца, што яны яшчэ і слабыя людзі, якія жывуць дробным крадзяжом, або папрашайніцтвам. Фактычна ўся іх на першы погляд страшная этыка і ўвесь нігілізм—гэта сум аб „не такім жыцьці“, гэта „сон залаты“, гэта бунтарскі пратэст супроць тупога васьмідзесяцкага існаваньня. І гэта ў такой-жа ступені, у якой для самога Горкага „залатым сном“ аб лепшай будучыне была ідэалізацыя басяцтва.

Каб скласьці гімн „безумству храбрых“ патрэбен быў матэрыял, а лепшага за паўпралетарскіх элемэнтаў матэрыялу яшчэ ня было, бо пралетарыят толькі яшчэ асьвядомліваў сваю самастойнасьць, пераходзіў з клясы ў сябе ў клясу для сябе. Аб'ектыўна гэты працэс асьвядомліваньня, дыфэрэнцыяцыі выявіўся ў творчасьці Горкага ў тым, што ён ад ідэалізацыі, ад прыкрашваньня басяцтва перайшоў да яго выкрыцьця, да зрываньня з яго масак. Гэты працэс цалкам завяршыўся ў апавяданьні „Бывшие люди“ і драме „На дне“. Тут басякі выступаюць без рамантычных адзеньняў, як людзі ў якіх усё жыцьцё ў мінулым, як „былыя людзі“. Яны ўсяго толькі жалкія, нікчэмныя, пакрамсаныя жыцьцём людзі, у якіх дробны купчык Пятуньнікаў можа выгнаць з сваёй начлежкі.

Горкі выступіў на пераломе двух эпох, выступіў выразьнікам ідэй пралетарыяту, як клясы ў сабе.

Але суб'ектыўна блізкасьць да пралетарыяту яшчэ ня была асьвядомлена Горкім. Таму паказаўшы адваротны бок басяцтва, ён зноў пачынае шукаць тую грамадзкую сілу, якая заклікана так пабудаваць жыцьцё, каб зьнішчыць прыгнечаньне, каб даць поўны прастор для выяўленьня творчых магчымасьцяй індывідуальнасьці.

Што-ж убачыў Горкі ў буржуазным стане? Найбольш поўна жыцьцё буржуазіі, ці канкрэтна купецтва эпохі прамысловага ўздыму паказана ў рамане „Фома Гордеев“. Адным з цэнтральных вобразаў твору зьяўляецца купец Якаў Маякін. У рамане ён выступае ў ролі буржуазнага ідэолёга, выразьніка буржуазнай філёзофіі, этыкі і маралі.

Як вядома, капіталістычная сыстэма будуецца на анархіі і вытворчасьці, на канкурэнцыі. На базе імкненьня адолець канкурэнтаў, на базе клясавай практыкі буржуазіі выпрацоўваецца тэорыя нічым неабмяжованага эгоізму, як рухаючай сіле чалавечых паводзін.

Гэту тэорыю Якаў Маякін узводзіць у абсалютны закон чалавечага грамадзтва. Горкі надзвычайна глыбока раскрывае ўсю ўбогасьць, абмежаванасьць буржуазнай думкі, калі паказвае як прадстаўнік буржуазіі нормы паводзін уласьцівыя яго асяродзьдзю пераносіць на ўсе чалавечае грамадзтва.

Вайна ўсіх супроць усіх—такі вечны закон жыцьця паводле Маякіна. Зразумела, што сьвядомасьць Фамы ня можа ўмясьціць гэтай воўчай філёзофіі.

Кірунак думак Маякіна асабліва становіцца зразумелым з яго гутарак з дачкой:

— „Бескарысным чалавек ня можа быць...—пераконвае ён яе,—за чужое ён ня стане біцца“... І яшчэ па другому поваду.

— „Як могуць быць усе шчасьлівыя, калі кожны хоча лепш за другога быць? І ніколі чалавек чалавеку ня ўступіць— дурні толькі гэта думаюць“...

Ён адчувае дзе яго сапраўдны вораг і таму яго гутаркі аказваюцца накіраванымі супроць рэвалюцыі і рэвалюцыянэраў. Сацыяльнай роўнасьці ня можа быць, бо кожны імкнецца стаць вышэй за другога. Зьнішчыць клясы нельга, бо чалавек можа змагацца толькі за сваё, за ўласнае, і таму сацыялістычная арганізацыя гаспадаркі немагчыма. Аргумэнты тыповыя і для сучаснай буржуазнай думкі. На большую глыбіню буржуазная думка нyздольна.

У настойлівых пошуках сацыяльнай праўды Горкі ня раз падыходзіў да паказу ў сваіх творах і такога грамадзкага пласта, як інтэлігенцыя. Ува ўсіх гэтых творах адносіны яго да тагочаснае буржуазнае інтэлігенцыі адмоўныя. Асабліва рэзка ён пачаў выступаць супроць гэтае інтэлігенцыі пасьля таго, як у „На дне“ разгрыміраваў басякоў. У „Вареньке Олесовой“ ён выводзіць гадзенькага, нікчэмнага прыват-дацэнта Палканава, у „Чорте“ паказвае тупасьць інтэлігенцыі ў яе адносінах да пісьменьнікаў, у радзе п'ес—„Мещане“, „Дачники“, „Варвары“—малюючы жыцьцё буржуазнай інтэлігенцыі, галоўны ўпор робіць на бяссэнсавасьці, непатрэбнасьці, шэрай бясколернасьці яе жыцьця.

Выступаў ён некалькі раз супроць бяз'ідэйнай, абывацельскай інтэлігенцыі і з публіцыстычнымі творамі. Для гэтага варта ўспомніць яго артыкулы „О мещанстве“, якія ён друкаваў у канцы 1905 г. у органе бальшавікоў „Новой жизни“.

У пасьлядоўным разьвіцьці свайго рэвалюцыйнага сьветапогляду Горкі прышоў да перакананьня, што сацыяльнае вызваленьне прыгнечаным можа прынесьці толькі пралетарыят. Першым больш менш акрэсьленым вобразам рабочага ў яго творчасьці быў машыніст Ніл з п'есы „Мещане“. Калі для басякоў была тыповым нястрымнае анархічнае жаданьне руйнаваньня, дык у характары Ніла мы знаходзім рысы творчага напрамку, якія складаюць яго спэцыфіку, як пралетара.

— „На ўсе сродкі душы маей,—гаворыць Ніл—здаволю сваё жаданьне ўмяшацца ў самую гушчу жыцьця... Мясіць яго і так і гэтак, таму перашкодзіць гэтаму дапамагчы... Вось у чым радасьць жыцьця“.

Але фігуру Ніла ў „Мещанах“ у пэўнай ступені трэба лічыць выпадковай, эпізодычнай. Першым творам, у якім рабочыя выступаюць, як арганізаваная сіла, была п'еса—„Враги“. У п'есе мяшчанскі індывідуалістычны мірок супроцьстаіць рабочаму калектыву. Высокая ідэйнасьць, маральная зьлітаванасьць гэтага калектыву выгодна вылучаецца на фоне ўнутранай убогасьці, спустошанасьці ўсякага роду індывідуалістаў.

Горкі не апісваў рабочых збоку, як назіральнік, у гэты пэрыяд ён адкрыта і цалкам далучыўся да вызваленчага змаганьня рабочае клясы і ў 1901 г. арганізацыйна аформіў свой уваход у РСДРП. Ужо з 1898 г. ён стаў бліжэйшым супрацоўнікам марксысцкага часопісу „Жизнь“. Як актыўны член РСДРП, Горкі не пазьбег прасьледваньняў з боку царскага ўраду. У красавіку 1901 г. быў абшуканы і арыштаваны ніжагародзкім жандарскім кіраўніцтвам па абвінавачваньні ў „выданьні злачынных адозваў да сормаўскіх рабочых у мэтах падбухторваньня іх да непарадкаў“. У 1905 г. быў пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасьць, як аўтар рукапісу пра 9 студзеня. У гэтым-жа годзе пасьля Кастрычнікавае стачкі выдае газэту „Новая жизнь“—орган бальшавіцкай фракцыі РСДРП. Скампрамэнтаваны ў вачох ураду рэвалюцыйнаю дзейнасьцю, у 1906 г. едзе за мяжу і пасяляецца на востраве Капры. У 1907 г. выходзіць яго новы буйны твор—аповесьць з жыцьця рабочых „Мать“. Аповесьць была моцна пакрэмзана цэнзурай, але па праву мела вялікі посьпех у рабочага чытача. Аповесьць была стрымана сустрэнута тагочаснай, галоўным чынам меншавіцкай крытыкай, паводле меркаваньняў мастацкага парадку. Ул. І. Ленін ацаніў аповесьць і з ідэйнага і з мастацкага боку надзвычайна высока.

За мяжой „Мать“ вышла ў поўным выданьні, разышлася ў мільённых тыражох у дадатках да газэт і часопісаў і хутка стала настольнаю кнігаю заходняга рабочага.

К часу напісаньня „Матери“ Горкі акрэсьлена склаўся, як пралетарскі пісьменьнік і зусім правільна лічыцца аснавальнікам пралетарскай літаратуры. Фактычна гэта было першае мастацкае палатно, першы выдатны твор пра рабочых у рускай літаратуры. М. Горкі першы стварыў яркія вобразы рэвалюцыянэраў-рабочых, самаадданых барацьбітоў за сацыяльнае вызваленьне працоўных, за сацыялістычную пераробку грамадзтва.

Наступным буйным творам была „Исповедь“, у якой Горкі зрабіў адхіленьне ў бок богашукальніцтва і якая з гэтае прычыны была асуджана марксысцкай крытыкай.

Богашукальніцкія настроі ў Горкага былі нятрывалымі і хутка ён ад іх зусім вызваліўся. У 1910-12 г.г. ён піша новы буйны твор „Городок Окуров“, які ўносіць новыя рысы ў стыль Горкага. Гэты твор фактычна становіць сабой канец публіцыстычнага рэалізму і пачатак рэалізму „арганічнага“.

І да Кастрычнікавай рэвалюцыі і пасьля яе Горкі быў у блізкіх і добрых адносінах з У. І. Леніным, паміж імі ішла вялікая перапіска.

Ленін надзвычайна паважаў Горкага, усімі сродкамі стараўся захаваць яго для пралетарыяту. Яшчэ ў 1910 г. ён пісаў пра яго:

„Горкі—бязумоўна буйнейшы прадстаўнік пралетарскага мастацтва, які шмат для яго зрабіў і яшчэ больш можа зрабіць... Горкі—аўтарытэт у справе пралетарскага мастацтва, гэта—бясспрэчна“...

У пасьлярэвалюцыйны пэрыад зьяўляецца шэраг твораў Горкага напісаных у мэмуарным пляне, пляне ўспамінаў („Сторож“, „Первая любовь“, кніга пра Л. Н. Талстога), а таксама ў пляне аўтабіяграфічным („Детство“, „В людях“, „Мои университеты“). У гэтых творах канчаткова выпрацоўваецца стыль, які пачаўся ў „Матери“ і сфармаваўся ў асноўных рысах у „Городке Окурове“. Знадворна спакойнае разгортваньне падзей, старанная, дэтальная абмалёўка характараў і палажэньняў характарызуе творчы мэтад пісьменьніка на гэтым этапе.

У „Деле Артамоновых“, якое выйшла пасьля рэвалюцыі, Горкі зноў вяртаецца да паказу буржуазіі. Раман ахоплівае тры пакаленьні адной сям'і з асяродзьдзя буйнай буржуазіі. Першае пакаленьне—гэта прадстаўнікі першапачатковага накапленьня, малакультурныя, але надзвычайна прадпрыімчывыя буржуа. У другім пакаленьні адбываецца працэс эўропэізацыі, аваладаньня культурнымі здабыткамі. Трэцяе пакаленьне ўвасабляе працэс фізычнага і сацыяльнага выраджэньня буржуазіі.

Новы буйны твор вялікага пісьменьніка пралетарыяту аповесьць „Жизнь Клима Самгина“ напісаны таксама ў мэмуарным пляне. Першы том аповесьці зьявіўся ў 1927 г. З таго часу выйшла тры тамы (аповесьць ня скончана). Твор прысьвечаны інтэлігенцыі. Першыя тры тамы ахопліваюць пэрыяд з 80 г.г. XIX стагодзьдзя па пэрыяд рэакцыі пасьля рэвалюцыі 1905 г. уключна. Крытыка неаднойчы называла „Клима Самгина“ рускімі Ругон-Маккарамі. І сапраўды твор па ахопу часу, падзей, па багацьці чалавечых вобразаў, гістарычнага, бытавога матэрыялу, ня ўступае Золя і ў гэтым дачыненьні ўяўляе з сябе выключнае зьявішча ў сусьветнай літаратуры.

Праца над „Климом Самгиным“ ішла роўналежна надзвычайна энэргічнай публіцыстычнай дзейнасьці Горкага за апошнія годы. На першы погляд здавалася, што аповесьць, якая пішацца нібы на нэйтральным матэрыяле, слаба вяжацца з колам ідэй і настрояў Горкага—герaічнага змагара за сацыялістычную айчыну, але раптам у час судовага працэсу супроць шкоднікаў з прампартыі і бюро меншавікоў аказалася, што гэтыя-ж персанажы асуджаны яшчэ раней мастацкімі сродкамі, пісьменьнікам пралетарыяту М. Горкім у „Климе Самгине“. Гэтым самым была ўстаноўлена бясспрэчная палітычная актуальнасьць і злобадзеннасьць твору.

Адзін за адным на працягу апошніх год выходзяць з-пад пяра пісьменьніка сусьветнага значаньня поўныя рэвалюцыйнага запалу заклікі да клясавай пільнасьці, да бязьлітаснай барацьбы пралетарыяту СССР з клясавымі ворагамі („К рабочим и крестьянам“, „Контррэволюционерам вредителям“, „Если враг не сдается его уничтожают“), артыкулы—адозвы да заходня-эўрапэйскіх рабочых і інтэлігенцыі, аб пераможным поступе сацыялізму і перавазе сацыялістычнай формы гаспадаркі над капіталістычнай, аб культурнай рэвалюцыі і пераробцы чалавечай псыхікі, аб кансалідацыі культурных сіл чалавецтва пад сьцягам салідарнасьці з будаўнікамі сацыялізму („О цинизме“, „Ответ интелигенту“, „История молодого человека“).

Вялікі пралетарскі пісьменьнік М. Горкі ў першых шэрагах міжнароднага пралетарыяту з энтузіязмам юнака змагаецца супроць пагрозы новай імпэрыялістычнай вайны, за абарону бацькаўшчыны працоўных СССР („С кем вы мастера культуры“ і інш.). Гэта змаганьне не абмяжоўваецца толькі публіцыстычнай дзейнасьцю. Для тато, каб поўнасьцю ўявіць сябе гэта досыць, згадаць пра арганізацыю Горкім разам з Анры Барбюсам і Ромэн Ролянам антываеннага кангрэсу. Галяндзкі ўрад абараняючы справу буржуазіі ня пусьціў Горкага на кангрэс, але гэта не перашкодзіла пачуць абвінаваўчы прысуд супроць мілітарысцкага імпэрыялізму больш шырокай чым заля кангрэсу аўдыторыі — працоўным усяго сьвету. Горкі зьяўляецца ініцыятарам стварэньня гісторыі грамадзянскай вайны, гісторыі фабрык і заводаў СССР, паказаў герояў пяцігодкі ў літаратуры і г. д.

Грамадзка-палітычная дзейнасьць Горкага за некалькі апошніх год гаворыць аб перамозе чалавечае волі і клясавае сьвядомасьці над законамі ўзросту і лішні раз пацьвярджае ўсю моц, усю глыбіню, усю пладатворнасьць пралетарскага сьветапогляду.

Лепшы крытэры—практыка.



Маскоўскі дзяржзавод падшыпніка, імя Кагановіча.
На здымку: гатовыя колцы падшыпнікаў здымаюцца з машыны.

# С Ы Н  П А Р



Прышла вясна—чаканы госьць—
У годзе дзевяцьсот дзесятым,
Прышла з вясною весялосьць
Сялянскай закурэлай хаты.

Ў майго суседа бедняка
Радзіўся сын вясновай ночкай...
Такога шчасьця не чакаў,
Бо нараджаліся ўсё дочкі.

Так шчасьце плыне пакрысе,
А не ляціць, як пчолы, роем...
Назвалі сына Аляксей...
Так будзем зваць майго героя.

Расьце, гадуецца дзіцё,
А ў хаце гора, непаладкі.
Ах, ты, мужыцкае жыцьцё!
Сам галадай—плаці падаткі.

Адна ўсё-ж радасьць—гэта сын,
На старасьці—бацькам падмога...
А сын маленькі і ня сьніў,
Якая перад ім дарога.



Чуць-чуць падрос—ён гаспадар.
Сьвіней, кароў на пасту гоніць,
Ці з бацькам едзе на папар.
Паволі заскародзіць гоні.

Была вайна. Жахлівы час.
Мужчын пабралі з кожнай хаты...
І бачыў наш герой ня раз,
Як плачуць жонкі і дзяўчаты.



Пытае ў бацькі: дзе, чаму
Забіты іх сусед Ігнатка.
Стары адказвае яму:
„На сьвеце, сынку, непарадкі".

Ён слухае, раскрые рот,
Ды кепска цяміць яго розум.
А вось прышоў дзвацаты год,—
Спазнаў і ён вайны пагрозу.

Па бацькавых старых плячах
Гуляў бізун белапаляка...
Са страхам жудасным ў вачах
Сын захаваўся й горка плакаў.



Стары пакут усіх ня зьнёс,
Уцёк у лес з сякерай войстрай...
Цяпер у сына замест сьлёз,
Запала ў сэрца злая помста.

Ён гора з помстай парадніў.
Быў Аляксей бясконца рады,
Калі у ліпеньскія дні
Прышлі чырвоныя атрады.

Не загаіць так хутка ран,
Калі зямля крывёю зьліта,—
Сярод забітых партызан
Бацьку знайшоў свайго забітым.

Чырвоных ласку сын адчуў,
З ім гаманілі так гасьцінна...
— Панам—зладзеям адплачу,
Вось толькі дайце падрасьці мне.

Ён так сказаў. І ўвесь свой сум
У сэрца захаваў глыбока,
Павясялеў ад сьветлых дум,
Што ён цяпер не адзінокі.

У новай вольнай грамадзе
Ён адшукаў свой шлях жыцьцёвы
І сьмела шляхам тым ідзе,
Адважны ён, на ўсё гатовы.

За цяжкай працай, што й казаць,
Ляцелі птушкай год за годам...
Я не імкнуся апісаць
Жыцьця юнацкага прыгоды.

І вось, яму семнадцаць год.
Дарослым стаў, такі здаровы,—
Праводзіць ён сялянскі сход...
Дадзім цяпер герою слова.

— Таварышы. Дазвольце мне
Зноў гаварыць ад камсамола,—
Ня сход у вас тут на гумне,
А проста некая крамола.

Мы камсамольцы, як адзін
Даўно працуем у калгасах,
Ня верыць хто—прыдзі, глядзі,
Што творчы дух наш там ня гасьне.

Мы дружны ўсе—адна сям'я,
Лягчэй і праца ў калектыве...
Хто нас раней не асьмяяў?
Хлусьня, усе—мы там шчасьлівы.

Ў калгасе быць даўно вам час,
Паверце словам Аляксея,
Што вораг клясавы між вас
Разлад, няпраўды, чуткі сее.

На кожным сходзе можна чуць
Кулацкую брахню скрозь сьлёзы...
Ім трэба гэта каламуць,
Каб вам-жа затуманіць розум.

Ня верце ім—вось заклік мой,
Таварышы-браты сяляне,
Людзям са здрадніцкім кляймом,
Яны—часоў крывавых здані.

МІХАС ЧАРОТ

# РТЫЗАНА

Ім хутка сьмерць. Сьмялей удар!
Хай зьмеямі шыпяць пужліва.
Сягоньня—мы тут гаспадар
І наша сіла—калектывы.

З павагай слухалі усе
Ды гаварылі на сабраньні:
— Ну, малайчына Аляксей.
Хоць малады, ды дужа раньні.

Прамоўца змоўк, і ўсе маўчаць.
Ўсплылі малюнкі дзён мінулых,—
Шрамы у бацькі на плячох,
Паноў разьюшаныя гульні.

Бярозаў купку ловіць зрок—
Чырвоных партызан магілу,
Геройства іх нясе здалёк
Натхненьне барацьбы і сілу.

А працы многа, дзе ні глянь,
Прастор юнацкаму запалу.
І кліча ў бойку ён сялян
З варожа-клясавай навалай.

— Бярэце прыклад,—кажа ён,—
Рабочай клясы аднадушша,
Змаганьнем злучаных калён
Ніякі вораг не парушыць.

Мы сіла грозная для тых,
Каму закон савецкі—згуба...
Саюз рабочых й беднаты
Стану варожаму ня любы.

Калі працуе кожны з нас
Зусім сумленна, без урону,—
Заводы, фабрыкі й калгас
Будуць фарпостам абароны...

Так хутка крочыў дзень за днём
У працы цяжкай, сьмелай бойцы,
Нягаснучым гарэў агнём,—
Героем звалі камсамольца.

І вось герой наш Аляксей
Ў такой пашане не напрасна,—
Ён прыклад моладзі усей,
Ударнік лепшы у калгасе.

Ад золаку да першых зор
З сялянамі працуе ў полі,
Прыедзе змораным на двор,
Адразу не спачне ніколі.

У ціхі вечаровы змрок
Над кніжкаю сядзіць ён крукам,
Ён дзьверы возьме на замок—
Аддаецца у палон навукі.

Калі-ж бывае вольны дзень,
Дзе там спачын такой натуры.
Хлапцоў на стрэльбішча вядзе,—
Першы стралок і фізкультурнік

Нястрымны баявы настрой
У час вучобы захапляе,
І повен помсты наш герой,
Нібы у ворага страляе.

Ён толькі марыў аб адным,
Ці спаць лажыцца, ці прасьнецца:
Як прыдуць прызыву гады—
Быць баявым чырвонаармейцам.

О, палкасьць летаў маладых.
Сягоньня Аляксей шчасьлівы.
Ў Чырвонай арміі рады
Дзень надышоў яго прызыву.

Няма ні жалю і ні сьлёз,
Радасьць чаканая у хаце,
На твары грае весялосьць
Нават яго старэнькай маці.

Хвілінка суму. Ўсё-ж такі
Сэрца знайшло сабе прычыну,
Як разьвітаўся утайкі
З даўно каханаю дзяўчынай.

— Усе бывайце. Мне пара
Свайго жыцьця жаданьні зьдзейсьніць.
Бадзёрым выехаў з двара
З любімаю сваёю песьняй.

... Шумяць лясы, маўчаць даліны,
Гарыць агнём крывавым рань,
Радзіму мілую пакіну—
Я сын чырвоных партызан.

Я партызан заветы помню,
Геройства крок іх быў вялік,
Для іх найлепшы будзе помнік—
У бой ісьці як бальшавік.

Няхай і кулі сыплюць градам,
Гранаты рвуцца нада мной,
Пайду з чырвоным я атрадам
На ворага ў апошні бой.

Мы зломім ворага калёны,
Пераплывем крывавы вір...
Непераможны стан чырвоных,—
Ваюем мы за вечны мір.

Шумяць лясы, маўчаць даліны,
Гарыць агнём крывавым рань...
Радзіму мілую пакіну—
Я сын чырвоных партызан.

11/IX—32 г.
Смаленск.











МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ

# КРЫХУ ПАВЕТРАНАЙ РАМАНТЫКІ



МАЛЮНКІ ЛЁТНІКА БАРАНАВА

Хочацца сказаць некалькі слоў аб асабістых перажываньнях і пачуцьцях у часе палётаў і асабліва ў часе фігурных палётаў, пры выкананьні вышэйшага пілотажу.

Чалавек, які ўпяршыню падыходзіць да самалёта (канешне, каб сесьці і паляцець) нагадвае да некаторай ступені таго гора-коньніка, які ніколі, як сьлед, ня бачыў каня, ніколі конна ня езьдзіў, але раптам надумаўся ўскарыскацца на сядло і вось ён асьцярожна, як кот да вераб'я (ці мо' наадварот) падбіраецца да каня:—„кося, кося... тпр-р-у, мілай..." А ў думках: „От убрыкне, от за калена ўзгрызьне..." і ўрэшце, перасягнуўшы мяжу звычайнай чалавечай „адвагі", узьдзянберыцца чалавек на сядло. Праўда ад гэтай „адвагі" затрымцяць ліхаманкава каленцы і тое, што завецца душой, пачне вырабляць такія піруэты, што варта каню—ціхаму, аб'ежджанаму—ступіць крок, другі, як сьмелы коньнік, цупка ўчапіўшыся ў надзейную грыву, закрычыць нема і дзіка: „Лавіце мяне за нагу, здаецца—я падаю". І пужаючы неміласэрдна каня,—бокам, бокам—ды сапраўды ўжо вобземлю...

Так і мы з вамі, наземныя людзі.

Вось ён стаіць—самалёт. Бліскучы, нацягнуты, на пругкіх колах—нагах, з вострай дзюбай пропэльлера. Стаіць, не зварухнецца, ціхі, лагодны...

Ну, як не памацаць крыло.

Добротнае яно, плыткае, лякіраванае. І тросы, як нацятыя струны... Нацягваюць яны крыльлі, хвост, а на іх жа ляцець... Танюткія тросы... І ў каленцах ужо знаёмае такое калі не адважнае трымценьне, дык гэткае падаз ронае пакалваньне—а што, як убрыкне?"

Але самалёт яўна вамі ня цікавіцца, дудзіць сваю песьню матор, спакойны лётнік спакойна аглядае машыну, спрабуе старно, ручку газу. І спакойная ўраўнаважанасьць лётніка пераходзіць" да вас. „Хіба-ж мы ня людзі, не чалавекі?" І вы ўжо ў кабінцы, і ля вас завіхаецца лётнік, каб павучыньнем раменьня прыкруціць вас да вёрткага цела самалёту. І вы ўжо сядзіце спавіты раменьчыкамі і нібыта абыякава пазіраеце на гэты бліскучы замочак на грудзёх, на яго зашчапку, што так спрытна замкнула мэталёвыя канцы раменьня. І нібы то спакойна слухаеце парады і настаўленьні лётніка:

— За гэтую зашчапку брацца не рэкамэндуецца, асабліва калі будам даваць нырца пад воблакамі...



— Дужа мне трэба яе чапаць... Як небудзь ужо не крану... — адказваеце вы, стараючыся надаць свайму голасу як мага больш гэткага вытрыманага спакою спрактыкаванага арла.

Але лётнік ня верыць гэтаму арляняці і дае яшчэ рад паказаньняў: як сядзець і ня рыпацца, як падаваць голас, як паварачвацца...

І паглядзеўшы яшчэ раз недаверліва на вашу пэрсону, дадае:

— Ва ўсякім разе я лётаю сёмы год, так што...

У перакладзе на звычайную мову гэта значыць: „Адным словам, не сумлявайся, на зямлю дастаўлю"...

І ўрэшце вы паляцелі. Урэшце вы адчуваеце сябе сапраўднай птахай, бо шалёна імчаць пад вамі слупы, дамы, гарадзкія саборы і цэрквы, лясы і ўзгоркі. І назіраеце вы гэта ўсё з так званага „птушынага палёту". І калі стане на гэтым птушыным палёце нахіляцца крыло самалёта, ці самі вы разам з самалётам станеце потрыч у паветры, вам дужа-дужа захочацца крыкнуць, як там, на зямлі: „лавіце мяне за нагу, бо здаецца—я падаю". Але крычаць нязручна. Па-першае, не перакрычыш матора. Па-другое, захліпнуцца грудзі. Па трэцяе—хто цябе пачуе тут? Лётнік? Хіба яму толькі і справы... Па-чацьвёртае, зірніце на зашчапку тую і супакойцеся—яна-ж вытрымае, ня выпусьціць вас з сваіх раменных абыймаў. І як толькі вам зробіцца цяжка, як толькі наважыцца душа кідацца наўцёкі,—адзін позірк на блішчасты замочак, на зашчапку—і вашы пачуцьці стрыножаны.



А самалёт ідзе, шырачэзнымі кругамі набірае вышыню, падбіраецца пад самыя воблакі, выглядае, дзе-б спрытней нырнуць праз іх, забрацца на чыстыя і блакітныя прасторы. Унізу пасьцілаецца зямля. Ня звычайная ўжо: з палямі, з лясамі, з рачулкамі... Вы бачыце толькі аграмадністы плян, вялізную барэльефную карту, дзе разьляглісяадмысловыя крапінкі ўзгоркаў, бясформенная зяленіна лясоў, белыя, жоўтыя плямы гарадзкіх кварталаў і срабрыстая нітка ракі. Не зямля—гэомэтрыя ў фарбах. Казачная, дзівосная, чаруючая гэомэтрыя, гэтакі гэомэтрычны шматколерны фэйэрверк, з-за якога, варта ісьці на любую „адвагу".

Вы глядзіце направа, глядзіце налева. З правага боку ў вас—бездань, з левага—бездань. Над галавой неба, а часам і зямля, — і так бывае, калі пойдзеце вы на „мёртвую" пятлю. Вы прызвычаіліся ўжо да сваёй кабінкі. Не падумайце, што гэта нешта такое падобнае на ўтульнае купэ ў цягніку. Праўда, ёсьць і такія кабінкі, ёсьць яны на пасажырскіх самалётах. Там сядзіце вы, як у добрым і ўтульным аўтобусе: справа сьценка, зьлева сьценка, а над галавой столь і ніякага табе клопату, бо пасажырскі самалёт ідзе яшчэ больш плаўна, больш спакойна, чым любы аўтобус.

Тут жа „крышачку" інакш. Вы на вайсковым самалёце. Ваша кабінка—невялікая ямінка. І ў гэтай ямінцы, прывязаны да яе дна, сядзіцё вы на вузенькім крэсьліцы, сядзіцё гэтак з „контурам". І на долю гэтага контура прыходзіцца ваша галава і плечы. І гэты контур вельмі часта падкідае ўгору, кідае ў бакі і ўжо зусім робіцца нязручна, калі коп-

тур раптам аказваецца ніжэй, чым ногі і прыходзіцца разглядаць гэтыя ногі на фоне далёкага і недасяжнага неба. Гэта ізноў такі пры „мёртвай“ пятлі. Пару слоў аб ёй. Кожны лётнік, у тым ліку і т. Шустаў, з якім мы ляталі, гіранічна ўсьміхнецца, калі пачуе пра мёртвую. Усьміхнецца і паправіць:



— Ня мёртвая яна, а звычайная пятля, адна з фігур нашага вышэйшага пілотажу. Ніхто-б не рабіў яе, калі-б яна была мёртвай.

Да рэчы, „мёртвая“ пятля здавалася мне раней самай страшнай, самай мудрагельнай штукай. Але гэта ня зусім так. Праўда, калі пойдзе самалёт на дыбкі, калі пачне пераварачвацца на сьпіну і вы павісьніце ўніз галавой, калі з нясьцерпным сьвістам і гудам шугане самалёт уніз, апісваючы шалёную дугу, то сказаць, што вы перажываеце ў такую хвіліну вялікую прыемнасьць, ня скажам. Нібы шкрабуць па сьпіне самыя сапраўдныя мурашкі і каб ня было на галаве цупкага шлема, то хто ведае: а мо' і сталі-б дубка валасы. Тут ужо не ў „каленках“ справа, а думаеш толькі, як бы хутчэй вывернуцца ды паставіць „коптур“, як сьлед, каб ногі былі ўнізу, каб нос кіраў у неба, а не ў зямлю. Але-ж гэта толькі сэкунды, Нават цяжка заўважыць, цяжка сабрацца з думкамі і разгледзіць як сьлед: як гэта раптам зямля і неба пачынаюць рабіць нязвычайныя для іх выкрунтасы, станавіцца потырч, апракідвацца, зыбацца, як агромністыя, непамерныя хвалі. Больш страшка пятля з так званай затрымкай, калі робіцца яна без дастатковага разгону і калі самалёт, апракінуўшыся на сьпіну, момант—другі нібы затрымліваецца ў палёце і ў злавесным маўчаньні выказвае яўныя намеры падаць уніз сьпіной. Нацягваецца струной ваш хліпкі раменьчык. На ім вісіце вы гэткім сваясаблівым жывым маятнікам. Ды яшчэ філёзофствуючым. Аб чым? Аб „красотах міра“, аб „суете сует“, аб ролі рамантыкі ў нашай літаратуры. Бадай ні аб чым... Хіба толькі адна думка і мільгае кантрабанднай маланкай: „А ня шкодзіла-б тым часам выбрацца жывым“...

Такава, так званая, мёртвая пятля. Пераносіцца яна, канешне, цяжэй, чымся іншыя фігуры, як піке, віражы, коўзаньне на крыле і інш.

Але што можна знайсьці ў параўнаньні са штопарам — гэтым бліскучым і да жудасьці захапляючым палётам — падзеньнем самалёта ўніз з далёкіх падвоблачных вышынь, гэтым спалучэньнем цэнтрабежнае сілы самалёту з шалёнаю сілай падзеньня. Самалёт імчыць каменьнем уніз, урэзваючыся са сьвістам у паветра, апісваючы аграмадністы, самы сапраўдны штопар, кожны віток якога вымяраецца ледзь не сотняю мэтраў. Вы бачыце толькі, як лётма імчыць насустрач зямля, імчыць дзівосная, жахлівая, страхатлівая. Яна не стаіць на адным мейсцы, як звычайна—нязрушная, занадта цяжкая і грамоздкая для якіх бы то ні было зрухаў. Тут вы бачыце яе ў нязвыклай зусім для яе ролі: гіганцкай і віратлівай каруселі, калі не разьбярэш ні гораду, ні вёсак, ні палёў, ні лясоў. Усё зьлілося ў адно імклівае кола, у цэнтры якога вісіць носам уніз, распасьцёршы свае магутныя крыльлі, ваша адважная птаха. А ўвярху куралесіць неба, сонца, воблакі, зьліваючыся разам у вогненна-блакітны спэктар. Некалькі доўгіх, як вечнасьць, хвілін, калі з сілаю прыціскае вас да краю кабінкі, калі вы ўжо гатовы пераступіць мяжу звычайнай чславечай прытомнасьці, як раптам вам робіцца лёгка—лёгка, вы сядзіце ўжо пасярэдзіне кабінкі, вы можаце свабодна паварачвацца, глядзець направа, налева, угору, уніз і зямля вайшла ў норму—усьміхаецца зьнізу сваімі неабсяжнымі і празрыстымі, як імга, прасторамі. Горка ўсьміхнецеся ёй у адказ, пасьля перажытага, адчуванага і гэтак аблягчона ўздыхнеце.

То лётнік спрактыкаваным рухам стырна падначаліў сабе цэнтрабежныя сілы і сілу падзеньня і вернай рукой вывеў самалёт з замарачнага штопару.

І калі вы апынецеся на зямлі, вы доўга будзеце хадзіць нібы ачараваны перажытаю казкай: дзе мярэжыва празрыстых воблакаў і пярэхмарак, густыя кавалкі хмар, блакітныя воблачныя калідоры, завоблачная халодная і крышталёвая сінь, недасяжная і першабытная ў сваёй красе—бездань неба.

І над усім гэтым, ува ўсім гэтым магутны рокат магору, бязьмежныя пераліві прапэльлеру і шырокія плыткія крыльлі—зялёныя зьверху, зьнізу блакітныя.

Крыльлі—сымбаль ўзьлёту чалавечае думкі і яе перамогі.

А чырвоная зорка на крыльлях—найлепшая адзнака, каму служаць гэтыя крыльлі, у імя якіх інтарэсаў робяцца ўсе гэтыя адмысловыя развароты, петлі і віражы, каго, якую краіну, чыю мірную працу будзе абараняць кожны наш самалёт, кожны лётнік—баец...

**М. авіяэскадрыльля.**

Рабочы-чыгуначнік Магнітагорскага будаўніцтва т. Грэбенюк вынайшоў мэханізм для падняцьця чыгуначных пуцей пры рамонце, што значна эканоміць рабочую сілу і павышае прадукцыйнасьць працы. На здымку зьлева: т. Грэбенюк каля свайго вынаходзтва. Справа: набіўка пяском дэталяў трактара на СТЗ.





С. ШУШКЕВІЧ

# АРЫШТ ТАВАРЫША

*(З вершаў „Віленскія вуліцы“)*

За горадам Вілейка з Вільлёю
Сустрэліся па-сяброўску
І пабеглі лугамі, лясамі, паўзгоркамі.
А мне ніяк ня сустрэцца з ёю
Паміж гэтага вулічнага лёскату,
Паміж гэтых кварталаў прагорклых.

Аваднямі разгудзеліся аўтамабілі,
Газэтчыкі фальшывяць да болю
І рамізьнікі лаюцца дзіка.
Няўжож яе дарагую зьвялі?
Няўжож ня ўбачу яе тут болей?
Няўжож папалася на вока шпіку?

Тлустыя вітрыны раздражнілі голад,
На сэрца ўзьбіліся ястрабы сумы
І разрываюць яго на часткі.
І чую за плячыма трывожны голас,
І чую перапоўніліся крокі шумам.
Няўжож і мне тут рыхтуюць пастку?

І перадае ўсхвалёваны таварыш:
„Ля Вострабрамскай зьвялі Ганку,
Ня ўсюды разаслалі праклямацыі“.
І аблівае пот мяне ліпкім варам,
Хвілінная адзінота зашчымела ранкай.
Хаця-б не сарвалася дэманстрацыя...

А ля піўной разышоўся нейкі абадранец
Бярэцца ў загрудкі з паліцыянтам
І стукае сябе заўзята ў грудзі.
Зьбіраюцца бабулькі ў касьцёл на ружанец,
Мерна адбіваюць вызначанае куранты
І вецер паперкі палінялыя круціць.

Вось і Вілейка з Вільлёю
Сустрэліся па сяброўску
І пабеглі лугамі, лясамі, паўзгоркамі.
А я ня сустрэнуся з ёю
Паміж гэтага вулічнага лёскату,
Паміж гэтых кварталаў прагорклых.

І сабярэцца асірацелая ячэйка,
І скажуць: „Самая лепшая на Лукішках,
Самая лепшая ня з намі...“
І будзе здавацца, што прычынілася века
Чорнага суму, глухога зацішша.
І кожнага раптам разбудзіць ненавісьць.

Разыйдуцца хмурнымі, адзінока, спакойна,
Каб заўтра сустрэцца сотнямі, тысячамі
Моцных, адважных, заўзятых шэрэнгаў.
Пакрыёмымі сьцежкамі будзе праводзіць іх поўнач,
І месяц быццам дубцамі высечаны
Будзе туляцца між хмар недалэнгаю.

За горадам Вілейка з Вільлёю
Сустрэліся па сяброўску
І пабеглі лугамі, лясамі, паўзгоркамі.
Сустрэнуся, сустрэнуся з ёю
Паміж гэтых кварталаў з лёскатам,
Паміж гэтых савецкіх кварталаў гордых!..

ЯНКА БОБРЫК

# ЗАХОДНІ ФРОНТ

*(Сцэнары Б. Брадзянскага)*

У вытворчасьці нашай фабрыкі знаходзіцца новы фільм „Заходні фронт“. Ставіць фільм па сцэнарыю Б. Брадзянскага рэжысэр Ул. Корш.

„Заходні фронт“ павінен зьявіцца на экранах да 15-годзьдзя Чырвонай арміі, як юбілейны фільм. Вось чаму мы павінны з асаблівай увагай і сур'ёзнымі крытычнымі адносінамі ўсёй нашай грамадзкасьці ставіцца да гэтага твору зараз, калі ён знаходзіцца ў стане вытворчасьці, з тым, каб ён апраўдаў пачэснае прызначэньне.

Колькі слоў пра сцэнары.

Не бяручы на сябе ролі даваць мэтадалёгічнае абгрунтаваньне сцэнарыю наогул, як мастацкаму твору (гэта тэма адмысловага артыкулу), мне хочацца, перш чым перайсьці да аналізу сцэнарыя „Заходні фронт“, выказаць усё-ж коратка сваю думку наконт ролі сцэнарыя ў фільме.

Некаторыя тэарэтыкі і практыкі кіно лічылі і лічаць, што сцэнары гэта канва, каркас, які апранаецца і ажыцьцяўляецца пляскічымі, а зараз, і гукавымі вобразамі рукой рэжысэра і праз іх (вобразы) выражаецца ідэя твору ў цэлым, што сцэнары гэта падсобны матэрыял, што вядучым зьяўляецца рэжысэр у стварэньні кіно-фільму.

Такое палажэньне зьяўляецца, на мой погляд, памылковым і шкодным у наш час, калі мы высоўваем перад кожным мастацкім творам запатрабаваньні, якія-б забясьпечвалі магчымасьць стварэньня магнітабудаў мастацтва, твораў вартых сацыялістычнай эпохі. Сьцьверджаньні-ж, ігнаруючыя ролю сцэнарыя, прыводзяць вельмі часта да таго, што мы бачым на нашых экранах дужа нізкую ідэёва-мастацкую якасьць прадукцыі, параджаюць плойму халтурнікаў, якія, як саранча, абляпляюць сцэнарныя аддзелы кіно-фабрык, тармазяць разьвіцьцё савецкай кінэматаграфіі.

Мы павінны зараз пры росьце нашага гукавога кіно асаблівую ўвагу зьвярнуць на сцэнары. Дамагчыся гэтага, каб сцэнары ў літаратурных вобразах выражаў поўнату герояў, тыпаў і праз іх раскрываў ідэю будучага фільму, каб ён быў высока-мастацкім літаратурным творам. Вось чаму зараз пісьменьніку ў кіно адчыняецца вялікае поле дзейнасьці. З тае невялікае практыкі, што выпала на маю долю ў працы на фабрыцы, я павінен сказаць, што пісьменьнік, паэт зможа і павінен прынесьці вялікую карысьць у справе разьвіцьця нашай беларускай савецкай кінэматаграфіі, сваёй непасрэднай працай над сцэнарыям, над несьняй і г. д. Пісьменьнік аўладаўшы спэцыфікай кіно, зможа даць ня голыя каркасы, схэмы—сцэнары, а сапраўдныя літаратурна-мастацкія сцэнары, якія забясьпечаць рост і шпаркае разьвіцьцё нашай кінэматаграфіі.

Зараз непасрэдна пра адзін з такіх сцэнарыяў.

Пралёг Кастрычнікавай рэвалюцыі. Пераход вайны імпэрыялістычнай у вайну грамадзянскую, у гістарычны момант, калі беларуская нацыянал-буржуазія спрабавала адрадзіць самастойнасьць Беларусі, выкарыстоўваючы рэвалюцыю 17-га году.

Вось асноўная праблема, якую Б. Брадзянскі ўскрывае ў сваім сцэнарыі „Заходні фронт“.

Складанасьць і шматграннасьць гэтай тэмы вызначыла своеасаблівую эпічную форму яе раскрыцьця.

Тут мы ня сустрэнем танных інтрыг і трукаў, тут няма романічных прыгод. Тут жывыя людзі з акрэсьленымі клясавымі інтарэсамі, імкненьнямі і мэтамі.

Людзі рухаюць падзеі і ў стане разьвіцьця апошніх (падзей) раскрываюць сваю клясавую сутнасьць, паказваюць сваё сапраўднае сацыяльнае аблічча. У горне гэтых падзей выкоўваецца, загартоўваецца чалавек.

Праз разьвіцьцё асноўных вобразаў гэтага твору, аўтар правільна паказвае адзін з эпізодаў Кастрычнікавай рэвалюцыі ў арміі, на заходнім фронце ў час імпэрыялістычнай вайны, і дзейнасьці „верных сыноў народаў“,—прадстаўнікоў Беларускай нацыянал-дэмакратыі, якая прагна дамагалася „незалежнасьці“ Беларусі, з надзеяй ажыцьцявіць яе ў агні вайны, пры падтрымцы іх ідэй з боку буржуазіі Польшчы ці нават Нямеччыны.

У той час беларуская нацыянал-дэмакратыя зьбірала свае сілы і бязумоўна адрозьнівалася ад той нацдэмаўшчыны, якая актывізавалася ў наш час.

Маючы гэта на ўвазе мы і будзем аналізаваць вобразы, што характарызуюць прадстаўнікоў беларускай нацыянал-дэмакратыі дадзеных у сцэнарыі.

„Я еду на фронт. У агні вайны народзіцца лепшае будучае майго народу“—велічна і злосна кідае прапаршчык Вяліканаў, ідучы на фронт, пану Таракоціну, які пастараўся вызваліцца ад гэтага ня зусім надзейнага чалавека, прыстроіўшы яго ў армію. І на вайне Вяліканаў не мяняе сваіх пераканаваньняў, не апраўдваючы гэтым самым надзей пана Таракоціна і яго сына Коленькі, што вайна зьменіць яго пераканаваньні.

„Вы ня хочаце мяне зразумець...—(супярэчыць Вяліканаў Коленьку),—я таксама за вайну, але я веру, што сьледам за адраджэньнем Польшчы,—прыдзе адраджэньне Беларусі“,

Так, толькі абапіраючыся на падтрымку замежнай буржуазіі беларуская нацыянал-дэмакратыя спадзявалася зьдзейсьніць так званую самастойнасьць Беларусі. Гэты момант з дастатковай мастацкай сілай і гістарычнай правільнасьцю ўскрыты пры дапамозе Вяліканава.

Вяліканаў аўтарам дадзены ў найскладаных унутраных супярэчнасьцях. Яго шлях няроўны, віхлясты. Яго хістаньні, нерашучасьць, лібэральна-дэмакратычныя пачуцьці, што прабіваюцца ў яго да салдат (эпізод з Шапіра, атака, калодзеж і інш.) характэрны многім яго „сабрацьцям“ таго часу.

Але разам з тым, глыбока пераконаны ў сваіх ідэёвых устаноўках, ён перамагае гэтыя рысы. Бачучы, што ніякія словы, не дапамагаюць перавесьці салдат на свой бок, каб працягваць вайну і тым самым перашкодзіць бальшавікам, ён ідзе на апошняе. „Я ненавіджу гэтую сілу. Гэтай сіле супроцьстаіць толькі нацыянальная салідарнасьць і дэмакратыя“, кажа Вяліканаў і калі ён бачыць, што гэтая сіла ўжо паўстала супроць нацыянальнай салідарнасьці і дэмакратыі,—ён выбірае апошняе—кулямёт накіраваны супроць салдат і Вяліканаў гіне ля яго.

Аўтару, як ні які іншы, удаўся вобраз Вяліканава.

Гэта надзвычай яскравы, жывы поўнакроўны мастацкі вобраз, які трэба з такой-жа сілай, як ён дадзены ў сцэнарыі, даць на экране.

Вайна пачалася. Падзеі разгортваюцца не па гадзінам. Трэба выкарыстаць усё, каб пасьпяхова правесьці апошнюю. Распальваюцца патрыётычныя пачуцьці. Вось з усёй сілай разьвінаецца пагромная дэманстрацыя, дзікі нястрымны натоўп, што палымнее нянавісьцю да немцаў і спаганяе сваю злосьць і нянавісьць на майстэрні немца Шмідта, як прадстаўніка нацыі—вінавайцы вайны. Тады як з усёй мастацкай пераканальнасьцю паказана сутнасьць гэтай дэманстрацыі, без гатовых палітычных фраз і азначэньняў, адваротнае мы адзначаем, калі аўтар спрабуе паказаць, што вайна вядзецца не ў інтарэсах нацыі, а ў інтарэсах клясы, клясы буржуазіі.

Выкарыстаўшы, у асноўным трапны, арыгінальны прыём—заказ нямецкай фірме на выраб прыпасаў для рускай арміі,—ён з недастатковай мастацкай сілай паказаў яго (сцэна ў гарадзкога галавы).

Цэлы шэраг масавых эпізодаў і сцэн у сцэнары ствараюць надзвычайнае ўражаньне і робяць гэты твор творам вялікай ідэйна-мастацкай значымасьці. Досыць прыгадаць—марш салдат пад кіраўніцтвам Коленькі, першую газавую атаку, праверку пасьля бою, выпадак з сачыўкай і капцянармусам, братаньне і да т. п.—каб апраўдаць сказанае намі.

У гэтых падзеях, у гэтых сцэнах і эпізодах, аўтар нам паказвае разьвіцьцё і рух галоўных вобразаў гэтага сцэнарыя, якія зьвязаны з імі, якія (вобразы) праз іх і ў іх раскрываюць сваё сацыяльнае аблічча.

Вось галоўны вобраз сцэнарыя Макар Бобрык—рабочы-чыгуначнік—сьвядомы тып рэвалюцыянэра, які цьвёрда ідзе ў дасягненьні сваёй мэты.

Яго дзейнасьць, яго праца гаворыць сама за сябе і выклікае з боку ворагаў перашкоду.

Ён замешаны ў рэвалюцыйнай рабоце ў дэпо, яго як ненадзейнага, як небясьпечнага чалавека ізалююць, пасылаюць на фронт, але і тут ён застаецца верным самому сабе.

У складаных і цяжкіх абставінах, якімі зьяўлялася царская армія на фронце, ён працягвае сваю работу. Макар Бобрык гуртуе вакол сябе ядро. Ён ведае, што інтарэсы, імкненьні гэтых людзей абумоўленыя, няхай нават на першых парах, іх асабістымі інтарэсамі, іх цягай да сябе дамоў, там бач гаспадарка, зямля пустуе, жонка, свая хата—накіраваны ў асноўным супроць вайны, супроць буржуазіі.

Гэтыя інтарэсы, гэтыя імкненьні трэба выкарыстаць, трэба накіраваць гэтую масу, трэба яе арганізаваць у магутны кулак, каб у патрэбны момант даць руйнавальны ўдар па ворагу.

Вось перад намі тыповы вобраз селяніна, палоннага зямлі—Пятруся з вечнымі думкамі пра хату, зямлю, крамяную бабу. Яму няма ніякай справы да вайны, ён жыве сваім асабістым і гэтае асабістае вышэй ад усяго, ён нават спакойна спрабуе застацца дома на гаспадарцы (на дарозе на фронт), ня думаючы пра ўсе вынікі, якія пагражаюць яму пры гэтым.

На пытаньне Бобрыка: „Чаго-ж ня ідзеш?“—Пятрусь спакойна адказвае: „Дома застаюся“. І далей: „Гаспадарка патрабуе, каровы і вось яна жонка“. Гавалтам забраны Бобрыкам Пятрусь і на фронце ня губляе надзеі ўцячы. Першыя сыгналы рэвалюцыі паслужылі момантам, калі ён захацеў зьдзейсьніць сваё рашэньне, але куля свая-ж і „свайго“ спыніла яго на паўдарозе.

Супроцьлежны Пятрусю мы бачым вобраз другога селяніна-бедняка Некашына. Яму таксама ўласьцівы пачуцьці Пятруся (зямля, хата, гаспадарка), але ў яго мы адчуваем і іншае.

Ён, які папрабаваў на сабе ўжо раней ярмо пана, кулака, хоць і туманна, але ўсё-ж арыентуецца ў прычынах падзей. Сярод такіх Некашыных выяўляў сябе Макар Бобрык. Трэба сказаць, што ўлічваючы цяжкасьць працы рэвалюцыянэра ў арміі, неймаверную небясьпеку апошняй, праца вялася ня толькі агульнымі гутаркамі, размовамі, асобнымі заўвагамі, а практычнымі мерапрыемствамі што выцякалі з ініцыятывы працаўніка, яго кемнасьці і г. д., гэтага ў выстарчальнай меры мы ня можам адзначыць у вобразе Макара Бобрыка.

Калі ў салдат зьяўляецца непаразуменьне пасьля размоў з палоннымі аб тым, што ваююць мужык з мужыком, што „калі так, дык чаму мы мужыкі глотку адзін другому рвем, штыхамі там, бомбамі. Каму гэта трэба?.. Аўтар, каб не ўкладаць у вусны Бобрыка тэзісы з палітграматы, замяняе іх ня зусім ясным тэзісам: „А бач камусьці трэба, камусьці карысьць з вайны, радуецца хтосьці“.

Такія заўвагі бязумоўна зьніжаюць мастацкую цэльнасьць вобраза Макара Бобрыка, але ўсё-ж, ня гледзячы на гэтыя дробныя недахопы, Макар Бобрык поўнасьцю раскрывае сябе ў момант рэвалюцыі.

Ён шырока разьвінае свае шматгранныя сілы, цьвёрдай, рашучай натуры, радавога салдата рэвалюцыі.

На заклік Вяліканава да салдат ісьці на фронт да Керэнскага, Бобрык спакойна заўважае:

— „Маленькі вы чалавек, прапаршчык Вяліканаў. Куды клічаце. На сьмерць клічаце. Ашукваеце—ашукаць ня ўдасца“.

Так, Вяліканаву ня ўдалося ашукаць, яго папярэдзілі, яму няма выйсьця, ён спрабуе зьнішчыць варожую, ненавісную яму сілу... але агонь з бронецягніка перапыняе яго „добрыя“ намеры.

У гэтай заключнай сутычцы вобраз Макара Бобрыка з вялікай эмацыянальнай сілай выступае перад намі.

Перад намі выступаюць тысячы Макараў Бобрыкаў, якія ўзьнялі віхор Кастрычнікавай рэвалюцыі. Заслуга гэтага сцэнарыя, што ён змог нам паказаць іх. У гэтым вялізарная ідэйна-мастацкая вартасьць твору, які, будзем спадзявацца, з такой-жа глыбінёй і сілай будзе нас хваляваць, заражаць яго ідэяй з экрану.





Кадры з фільмы „Заходні фронт“

# Чатыры блакітных + энтузіязм

*Так зачалася.* Ня было калі тав. Кіртану, намесьніку старшыні Магілеўскага таварыства паляўнічых, якому было даручана праўленьнем арганізаваць трусаводную гаспадарку, заняцца гэтай справай! Шмат і без таго работы: там трэба паехаць у Маскву за таварамі для крам т-ва, забясьпечыць паляўнічых боепрыладамі, скласьці балянс т-ва, падлічыць прыбыткі, ды ці мала іншай работы? Ух! колькі яе ёсьць. Тут трэба выехаць у аддзяленьне, у ячэйку, арганізаваць заказьнік на зайца, на цецярука і глушца, паклапаціцца, каб было чаго пастраляць паляўнічым. І ён, пакуль што ня браўся за даручаную яму справу па трусагадоўлі.

Але быў неяк сход паляўнічых Магілеўскага таварыства. На гэты сход прыехаў старшыня Белкахотсаюзу,—самы старэйшы ён паляўніцкі начальнік.

Вось і пачаўся сход. Загаварылі аб паляваньні, аб тым ці шмат будзе дзічыны, колькі хто зайцаў забіў і ці ўсе здаў шкуркі ў т-ва, як выканана заданьне па загатоўцы пушніны, і на якую адлегласьць б'е чыя стрэльба.

Але вось, падняўся з-за стала старшыня праўленьня Белкахотсаюзу, які прыслухоўваўся ўвесь час да гаворкі на сходзе, і сказаў:

— Давайце, хлопцы, трусоў гадаваць.

Сход замоўк. Пачуліся галасы:—Як так—трусоў гадаваць! Хіба—мы яшчэ не гадуем? А таварыш Кіртан даўно вылучан для гэтай справы!

Тады падняўся тав. Кіртан і сказаў:

— Я заняты другой справай. Няма часу для трусоў... У мяне і так работы...

Замоўк зноў сход. Кожны з паляўнічых думаў сваю думку. Хлапец ён добры, а працаўнік яшчэ лепшы і калі гаворыць, што заняты другой работай, дык мусіць заняты... Мусіць праўду кажа?

Падумалі, падумалі і кожны пра сабе рашыў. І тады ўсе разам сказалі:

— Значыцца... аслабаніць тав. Кіртана ад усякай ахотніцкай іншай работы. Даць яму нагрузку—справу трусоў. Хай хлапец папрацуе трохі, справіцца ён з гэтай карыснай справай. Трусоў нагадуе, больш дзічы будзе ў ахотсаюзе...

Сход кончыўся. Старшыня Белкахотсаюзу паехаў дамоў. Тав. Кіртан ішоў па прыцемнаватых завулках на кватэру і абдумваў плян, як пачаць справу трусагадоўлі.

*Такой нарадзілася.* Назаўтра на сьвежую галаву тав. Кіртан падлічыў колькі за год прынясе кожная самка трусоў. Падлічыў і ахнуў ад зьдзіўленьня:—„Каштоўная штука! Адна самка да трохсот прыносіць у год прыплоду! Трэба ўзяцца за гэту справу!.

І ўзяўся. Пачалася зноў бегатня, разьезды. Трэба дошак на клеткі для трусоў. Дзе ўзяць дошкі? У адну ўстанову, у другую—дошкі ёсьць. Трэба цьвікі. Дзе ўзяць цьвікоў? Цьвікі на капітальнае будаўніцтва пашлі. Зноў бегатня па савецкіх установах і зноў—ёсьць цьвікі. А яшчэ сетка трэба. Бегаў, бегаў Кіртан,—няма сеткі. Зьвярнуўся да Белкахотсаюзу:—„Давай, брат, Белкахотсаюзік мілы, сетку на клетку для трусоў!" Белкахотсаюз зрабіў кіслы твар, замаўчаў. Тады Кіртан кінуўся ў другі бок і, урэшце, ёсьць і сетка.

Пачалі будаваць клеткі. Хутка іх было нароблена шмат. Але дзе-ж іх ставіць? Яшчэ месца няма для трусятніка. І зноў пачаў бегаць Кіртан па савецкіх установах. Там крыкне:—„Давайце вучастак зямлі, я вас закідаю трусамі". Там скажа:—„каб толькі вучастак зямлі, от бы нагадаваў трусоў!" І нашліся людзі, якія далі дзевятнаццаць гэктараў добрай зямлі, каля самага гор. Магілева, на высокім сухім месцы, на курганах, у ног якіх гоніць свае мутнаватыя воды дзядуля Дняпро.

Гэта было ў красавіку месяцы 1932 года. Ну, зараз толькі трусоў здабыць, запахаць вучастак, знайсьці трусавода і ўсё, гаспадарка гатова,—думаў Кіртан. Завошта тут раней прыняцца—вучастак засеяць, забясьпечыць будучых трусоў кармамі на зіму ці трусоў раней купіць? Рашыў раней вучастак засеяць: будзе корм, трусы будуць жывы, а ня будзе, што тады з трусамі рабіць?

Кінуўся сеяць! А ў гаспадарцы „ні каня, ні вала". Як-жа тут быць?

Сам плуг не пацягнеш і грошы няма ўсё адразу купіць. Прышоў тав. Кіртан на свой вучастак, абвёў яго мутным поглядам і задумаўся, апусьціў вочы ў воды дзеда Дняпра, які паласкаўся ў яго ног. Прасядзеў ён так з гадзіну, але раптам усхапіўся, падняўся і пашоў у горад. Яго твар у гэты момант сьвяціўся радасьцю.

Прышоўшы ў горад, тав. Кіртан пачаў клікаць на агульны сход паляўнічых. Праз колькі часу паляўнічыя зьявіліся. І тады прамову да іх пачаў тав. Кіртан.

— Вы мяне вылучалі гадаваць трусоў. Я за гэту справу ўзяўся, бо добрая справа:—Тут ён паведаміў ім, што зрабіў і закончыў:

— У гаспадарцы—ні каня, ні вала. Зямлю абсеяць і некім і нечым. Хто параіць, як быць?

Усе маўчалі. Адзін толькі Пракоп Даўгаязык усё ніяк ня мог скончыць апавядаць аб тым, як добра б'е яго стрэльба. Кіртан паглядзеў на іх і зноў загаманіў:

— Давайце, хлопцы, угаворым суботнік, зьявімся на поле са сваімі конямі, плугамі і насеньнем, засеем сваю зямлю а потым ужо нажывём усё, што нам трэба!..

Усе паляўнічыя пачулі словы тав. Кіртана. Нават і Пракоп на гэты момант замоўк аб сваёй стральбе і сказаў:

— А добрую думку ён унёс! Што нам каштуе папрацаваць у выходны дзень некалькі гадзін.

— Праўда, праўда!—загаварылі другія.—Давайце, хлопцы, суботнікам нашу зямлю... таго... узьвернем...

Так пастанавілі паляўнічыя і разышліся. А праз дзень па вуліцах гор. Магілева ішлі дзіўныя людзі.

Адзін вёў каня; другі нёс матыгу, трэці цягнуў барану ці плуг. Людзей гэтых было шмат. Уперадзе ішоў тав. Кіртан, весела паглядаючы на бакох. Тут-жа з боку бегла некалькі паляўнічых сабак.

— Хай прабягуцца!—гаварыў хто-небудзь, паказваючы на сваёго выжлу.—Заляжаўся!

Некаторыя паляўнічыя, як на паляваньне, узялі і стрэльбы.

— Каршуна дзе-небудзь падаб'ю. А то яшчэ павадзіцца цягаць трусянят з гаспадаркі.

Праз колькі часу зачырванеліся, а потым зазелянеліся курганы вясеньнімі ўсходамі. Зьмяніласд мясцовасьць. Толькі Дняпро злосна пеніўся сваімі хвалямі ў іх ног...



**На трусятніку заводу „Полымя рэвалюцыі". На здымку: ударнік трусятніка рабочы заводу тав. Позьнян.**



**Трус з трусятніка заводу „Полымя рэвалюцыі".**

Ну, усё галоўнае зроблена, думаў тав. Кіртан. Час настаў і жывёліну заводзіць. Клеткі гатовы, кармы будуць, чаго яшчэ чакаць. Зьвярнуўся тав. Кіртан да таго-ж Белкахотсаюза:

— Белкахотсаюзік, мой міленькі! Дай мне трусоў штук дваццаць матак, і штук дзесяць самцоў на завод!

— Няма ў нас трусоў для гэтай мэты!—прабурчэў Белкахотсаюз і, зрабіўшы знаёмую нам кіслую міну, схаваў вочы ў паперы.

— Як няма!—адказаў Кіртан.—У менскім гарадзкім т-ве, куды ўнесена 12.000 рублёў, хіба няма? У Воршы, у Пухавічах ды ці мала дзе, куды таксама пакладзены сродкі, хіба няма?

Адказу не пасьледвала. Задумаўся зноў тав. Кіртан. Што рабіць? Няма дзе трусоў купіць. Думаў, думаў і рашыў каля сябе навокал пашукаць. Кінуўся ў адно месца, у другое. Урэшце купіў за дваццаць пяць рублёў у вясковага трусавода аматара чатыры трусы. Пасадзіў гэтых зьвяркоў у карзінку і прынёс у горад. Потым перанёс туды, дзе расла з зямлі трусаводная гаспадарка зробленая яго рукамі і пасадзіў у клеткі. Гэта была, ня ведаю!—у пачатку ці ў канцы красавіка гэтага году.

Раз ёсьць чатыры трусы, трэба каб быў і трусавод. Пачаў шукаць яго і знайшоў. Прывёў у гаспадарку, паказаў трусоў і ўсё іншае. Потым зьвярнуўся да яго:

— Варвара Осіпаўна! Я вам давяраю ўсё. Рабіце так, каб нам добра было,—каб з чатырох у нас разьвялося сотні трусоў: нам будзе лепш. Чым больш, тым лепш. Краіна, рабочыя чакаюць нашых посьпехаў у гэтай справе!

І Варвара Осіпаўна зразумела словы тав. Кіртана, прыняла іх блізка да свайго сэрца. З таго часу яна ня выходзіла з гаспадаркі.

Добра было трусам. Яны былі вясёлыя і здаровыя. Сталі яны пладзіцца не па днях, а па часах...

*У такую вырасла.*

Зараз тав. Кіртан таксама ходзіць вясёлым і здаровым. Адна толькі думка клапоціць яго: дзе ўзяць пяць тысяч руб.? Вось ужо восень, абсыпаецца пажаўцелы ліст, шуміць пад нагамі, а пабудовы, яшчэ няскончаны. На вучастку зямлі трусятніка вырасьлі дзьве вялізарныя пуні, набітыя кармам для трусоў. Няма яшчэ хаты і сталоўкі для рабочых. А зіма на насу. А рабочых гэтых ужо пяць чалавек у гаспадарцы. Ды навеса для трусоў няма, а іх ужо разьвялося аж тысяча чатыраста штук з лішкам.

Былі і яшчэ клопаты, калі ў гаспадарку ўвалілася эпідэмія. Пачалі дохнуць маленькія трусікі. Але Варвара Осіпаўна, ночы ня спала, ня ела, ня піла, а выратавала сваіх пітомцаў. Навяла яшчэ лепшую чыстату, дэзынфэкцыю і парадак у гаспадарцы. Эпідэмія адступіла! Толькі сорак штук маладых, яшчэ голенькіх трусянят унесла з сабой эпідэмія.

Трусам і зараз жывецца добра пад уладай т. Кіртана і Варвары Осіпаўны. Яны кожны дзень п'юць малако ад уласных кароў гаспадаркі, якіх там маецца дзьве, а можа ўжо і тры. Жуюць авёс, сена і караньплоды, скошаныя, абмалочаныя і зьвезеныя сіламі працаўнікоў трусятніка. Для гэтай мэты ў гаспадарцы ёсьць два рабочых коні і ўвесь інвэнтар.

Што датычыць клопатаў тав. Кіртана аб пяці тысячах рублёў, дык і гэта мінецца, бо хутка ён прадасьць мяса рабочым на некалькі сот рублёў, а сама гаспадарка ўжо вырасла да дваццаці пяці тысяч рублёў!..

**Мік. Цэлеш.**

ФОТО І. САЛАВЕЙЧЫКА.

# ВЫЗВАЛЕНЫЯ З-ЗА ТУРЭМНЫХ КРАТАЎ ПАНСКАЙ ПОЛЬШЧЫ



**Прэзыдыум урачыстага паседжаньня, прысьвечанага прыезду палітэмігрантаў у БССР**



**Тав. Вера Харужая**



**Тав. Фрышман**



**Тав. Гаўрылюк**

Фото І. Салавейчыка



**Проэкты помнікаў У. І. Леніну. Зьлева направа: работы скульпт. Манізэра, Бразэра, Грубэ.** (Дэталь).

# КОНКУРС ПРОЭКТАЎ ПОМНІКАЎ Ул. І. ЛЕНІНУ

У сувязі з пастановай Саўнаркому БССР аб пабудове помніку У. І. Леніну каля дому Ураду, у Менску абылася выстаўка другога заказнога конкурсу па праэкт помніка.

Былі прадстаўлены тры праэкты помніка Маскоўскімі рэзьбярамі: Нерадой, Алёшыным і Кудрашовым, два праэкты беларускага каапэратыву мастакоў—разьбяроў Грубэ і Бразэра і (дадаткова да васьмі ленінградзкіх праэктаў помніка першага конкурсу) адзін праэкт Ленінградзкага рэзьбяра Манізэра і арх. Лангбарда.

Выразна вылучаліся праэкты мастакоў Грубэ і Бразэра ад прац Маскоўскіх і большасьці Ленінградзкіх рэзьбяроў сваёй ідэёвай насычанасьцю, дасягнутай выяўленьнем вялікай ідэі Леніна, праз перадачу вобраза Ільліча разам з працоўнымі масамі. Рэзьбяры Давцян і Белашоў распрацавалі тэму па таму-ж прынцыпу, паказаўшы Леніна разам з масай, але ўнесьлі жывапісны прыём у рэзьбярскае выяўленьне формы і таму іх праэкты маюць вялы выгляд.

Уся-ж пераважная большасьць рэзьбяроў імкнулася выявіць ідэю Леніна пры дапамозе аднэй фігуры, на беспрадметным, альбо стылізаваным п'едэстале, на якім, у большасьці праэктаў, маркуецца да распрацоўкі барэльеф. Але, нажаль, гэтай групе рэзьбяроў не ўдалося выявіць глыбіню генія Леніна, мастакі паказалі толькі асобныя эпізоды з яго жыцьця.

Пастановай журы намечаны да пабудовы праэкт помніка Манізэра „Ленін на трыбуне", які быў прадстаўлен на першым конкурсе і кампазыцыя якога ўзята рэзьбяром па вядомаму фота-здымку з Леніна, гаворачага прамову перад войскамі, што адпраўляліся на польскі фронт.

Па абвешчаных у газэце „Рабочий" выніках Журы праэкт будзе канчаткова зацьверджаны да пабудовы пасьля пераапрацоўкі яго ў бок паглыбленьня ідэалёгічнага зьместу.

**А. А.**



**Агульны выгляд залі з проэктамі помніку У. І. Леніну**



**Проэкт помніка раб. скульптара Белашова**

**Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.** Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2426. 3000 экз. Уп. Галоўлітбелу №а 1053.







# ТВОРЧЫ ШЛЯХ МАКСІМА ГОРКАГА

